


ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ

№ 1 (64)
СТУДЗЕНЬ
2013 г.

*Шаноўны чытач !*

*Пасля перапынку аднаўляецца выпуск краязнаўчага выдання "Павет". Апошні нумар пабачыў свет у красавіку 2008 года. Прайшоў час, адбыліся змены ў складзе рэдакцыі выдання. З'явіліся новыя аўтары і дарадчыкі. Але "Павет" абяцае захаваць свой стыль і не расчараваць аматараў гісторыі і краязнаўства.*

## У нумары:



16 кастрычніка ў Браславе з'явіўся новы помнік - камень сяброўства. Валун з мемарыяльнай дошкай "Браслаў - горад сяброўства і партнёрства" размясціўся ў гарадскім скверы, на ўскрайку сцежкі, якая злучае гімназічны двор і вуліцу Савецкую. Браслаўскі парк мае багатую гісторыю, якая зараз папоўнілася яшчэ адным эпізодам…

# З гісторыі парка ў Браславе

Гісторыя парка пачалася вельмі даўно - з гісторыі месца. Яшчэ не так даўно жывымі былі ўспаміны пра яўрэйскія могілкі, першыя пахаванні якіх, магчыма, узніклі ўжо ў XVI ст., калі ў Браславе з'явіліся яўрэйскія сем'і. Могілкі праіснавалі некранутымі да вайны. За пахаваннямі - на захад, у 1936 годзе быў адчынены помнік маршалку Юзэфу Пілсудскаму. Для гэтай падзеі была насыпана невялікая пясчаная пляцоўка, усталяваны вялікі гранітны пастамент, побач насаджана трава і кветнікі. Вялікі бронзавы бюст маршалка, працы скульптара Альфонса Карнага, Браслаў атрымаў у дар ад Цэнтральнага Інстытута Фізічнага Выхавання. Так на месцы сучаснага парка з'явіўся першы памятны аб'ект, які праз тры гады, у 1939 годзе, быў схаваны мясцовымі жыхарамі ад знішчэння. І толькі у 2001 годзе бронзавы бюст быў знойдзены ў раёне Заборных Гумнаў, пераўжыўшы Сусветную вайну і розныя змены.

Падчас акупацыі Браслава некалькі авіябомб былі скінуты на горад. Па ўспамінах - чалавечыя косткі ляжалі на паверхні. З гэтага моманту пачалася жудасная старонка ў жыцці яўрэйскай супольнасці мястэчка, пазней было створана гета. Але ж і пасля вызвалення лёс могілак быў асуджаны на скон. Улады рабілі добраўпарадкаванне дарог. Як кажуць, шмат -




**Цэнтральны ўваход у Браслаўскі парк. На заднім плане помнік У.Леніну. 1960-я гады**



**Каля помніка на яўрэскіх могілках у Браславе. 1930-я гады**

пяску з могілак пайшло на іх падсыпку.

За могілкамі, на ускрайку, каля вуліцы Булойчыка, была створана брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан са стэлай. Пазней на месцы "расчышчанай" тэрыторыі адчынілі танцпляцоўку, што ў народзе атрымала назву "патэльня". З цягам часу быў закладзены і парк. На цыліндрычным пастаменце былога маршалка Пілсудскага размясціўся правадыр У.І.Ленін, якога пазней перанеслі на цэнтральную плошчу да райвыканкама. Уваход у парк быў аздоблены аркай. Тут жа з'явіўся і кінатэатр.

У 1986 г. усталявалі скульптуру салдата на фоне двух абеліскаў (праект вядомага скульптара С.І.Селіханава). А ў канцы 1980- х гадоў, у паўднёвай частцы парка, пачалося будаўніцтва новага будынку райкама КПБ, але пасля распаду СССР праца прыпынілася. Ужо ў 1995 годзе там пачалася арганізацыя гімназіі. Падчас будаўнічых прац людзі натыкаліся на чалавечыя парэшткі, частка якіх была перазахавана на месцы расстрэла жыхароў гета і пасляваенных яўрэйскіх могілках.

Зараз жа ў парке з'явіўся новы помнік - камень сяброўства "Браслаў - горад сяброўства і партнерства", які павінен стаць сымбалем-талісманам міжнароднага супрацоўніцтва Браслаўскага рэгіёна.

Невыпадкова адкрыццё было прымеркавана да IV Міжнароднай канферэнцыі па трансгранічным супрацоўніцтве і развіцці інвестыцыйнай дзейнасці. Вакол валуна ўдзельнікі канферэнцыі пасадзілі 16 туй - столькі, колькі было падпісана дзелавых дамоў.



**Помнік маршалку Юзэфу Пілсудскаму. Фотаздымак паміж 1936-1939 гг. За помнікам, праз дарогу - будынак павятовага сейміка (сучасная Дзіцячая школа мастацтваў)**



**Камень з мемарыяльнай дошкай "Браслаў- горад сяброўства і партнёрства".**

# УРАЖАНЬНЕ АД СВЯТКАВАННЯ 10-х УГОДКАЎ "КРЫНІЦЫ".

**БАРАДЗІНІЧЫ, Браслаўскага пав.** Вярнуўся я дамоў пасля сьвяткаваньня 10-ці ўгодкаў выданьня "Крыніцы". На святкаваньні ўвідзеў я, як шчыра працуюць нашы арганізатары на полі беларускім. Ад сябе магу сказаць, што "Крыніца" шчыра прамывае вочы сялянам да праўды і змывае з селяніна ўсялякія цёмныя хмары, і мушу крэпка і шчыра падзякаваць віленскай інтэлігенцыі беларускай, што нямала кладзе сваёй працы на карысць беларускага сярмяжніка. Я ўвідзіў, як шчыра нас прывіталі нашы слаўныя працаўнікі і пасля вялікую радасць маю, як увідзеў, што нават іншыя народы: палякі, літвіны і чэхі шчыра віталі "Крыніцу", дык мы з гэтага надта цешымся, што ёсць да яе прыхільнікі не толькі беларусы, а і іншыя народы. Дык веру, што пасля гэтага святкавання наша чыстая і здаровая "Крыніца" многа яшчэ прамые новых дарожак. Усе гэныя прамовы - гэта было чышчанне "Крыніцы", паглыбленне і расшырэнне яе берагоў.

Яна, спадзяюся, у хуткім часе змые з беларуса усялякія цёмныя хваробы і мы ў ёй, як у верным люстры ўвідзім маладую і здаровую праўду. Пасьля гэтага сьвята мы сяляне пачуліся нейкімі блізкімі да гэтай "Крыніцы" і агулам да яе працаўнікоў.

Рыдзіка.

*«BIEŁARUSKAJA KRYNICA», 1926 № 40*

*(пры транскрыпцыі з лацінкі на кірыліцу стыль аўтара захаваны)*

# ЮБІЛЕЙНАЯ ВЫСТАВА ЯНА РЫДЗІКІ

Юбілеі

У Музеі традыцыйнай культуры прайшла персанальная выстава жывапісу Яна Рыдзікі прымеркаваная да 75-гадовага юбілею мастака з вескі Барадзінічы. Частку твораў - серыю "Легенды і паданні Браслаўшчыны" аўтар падараваў музею.

Прага да творчасці - неад'емны складальнік жыцця мастака побач з якім стаяць бязмежная любоў да сваёй малой Бацькаўшчыны - Браслаўшчыны і да краіны свайго народа - Беларусі.

Ян Рыдзіка нарадзіўся 11 верасня 1937 года ў вёсцы Барадзінічы, дзе жыве і працуе зараз. Творчыя захапленні будучы мастак атрымаў ад бацькі - Антона Паўлавіча, які быў вядомым і шануемым чалавекам. Ён займаўся сельскай гаспадаркай, размалёўваў дываны, спрабаваў свае сілы ў пейзажным жывапісе, займаўся разьбярствам, змайстраваў скрыпку і навучыўся на ёй граць, удзельнічаў у тэатральных пастаноўках, якія ладзіла беларуская моладзь. Ян Антонавіч артымаў спецыяльнасць у сельскагаспадарчым Гродзенскім інстытуце, пасля скончыў завочна Віцебскі педагагічны інстытут па спецыяльнасці настаўніка біялогіі і сельгаспрацы. Да пенсіі працаваў у Барадзініцкай, пасля Мількаўскай школе. Там ён стварыў непаўторную экспазіцыю школьнага музея прыроды, вёў заняткі па выяўленчаму мастацтву і адпаведны гурток.



Ян Рыдзіка. Аблога Іказненскага замка. *2012 г.*

Вольная хвіліна заўсёды аддаецца любімай справе - жывапісу. Я.Рыдзіка малюе праважна алеем, спрабуе сябе ў розных накірунках: партрэт, нацюрморт, ілюстрацыі да кніг, карціны на гістарычныя тэмы, пейзаж. У калекцыі мастака шмат цудоўных эцюдаў - праца над якімі для яго сапраўдная асалода.

Сучасная выстава - унікальная калекцыя пейзажных красамоўных карцін і прац на гістарычную і, нават, фальклёрна-краязнаўчую тэму. Працуючы над гэтай калекцыяй, мастак шукаў натхненне ў сюжэтах мясцовых паданняў, а таксама ў непаўторных беларускіх традыцыях і вераваннях. Творы маюць вельмі адкрытыя і яркія, але натуральные колеры, што сведчыць аб прафесійнасці і глыбіні мастацкага ўяўлення.

Амаль кожны сюжэт на выставе, акрамя назвы мае яшчэ і легенду, якая тлумачыць гледачу сэнс працы. У пошуках цікавых герояў Ян Антонавіч збіраў матэрыял, звяртаўся ў музей і , недарэмна. Бо ўсе працы набліжаюць да сябе, маюць моцную прыцягальнасць сваёй знакамітасцю і, калі можна так сказаць, роднасцю, "крыўнасцю": на палатне можна назіраць "Буслоў", што застылі ў паветры, быццам прыпынілася імгненне, знакамітых "Дзвіна, Браса і Дрыву", якія спрадвеку паданнем звязаны з Браславам, а таксама таямнічага "Лясуна" і "Русалак"... А вось і італьянскія акторкі, што гастраліравалі ў Бяльмонтах, але не вытрымаўшы вільготнага клімата так навечна і засталіся на беларускай зямлі.



Ян Рыдзіка. Восень у Бяльмонтах.

Напэўна ў кожнага чалавека, які пабачыць гэтыя творы, складзецца сваё ўражанне, узнікнуць свае непаўторныя думкі. Багатыя мы людзі! На векавыя традыцыі, на маляўнічую прыроду, на таемнае і адначасова роднае. І поўніцца нашае багацце тымі людзьмі, якія маюць талент усё гэта адлюстраваць. Ян Рыдзіка - мастак і беларускі сын, што так вытанчана зберагае таямніцы роднай зямлі.

*Успаміны*

# Мар'ян Радзецкі-Мікуліч

## (з успамінаў Зеліслава Янушкевіча)

*З 1923 г. па 1939 г. на пасадзе павятовага старосты змянілася 6 службоўцаў. Найбольш працяглы тэрмін, з 1923-га па 1932 гады, браслаўскім старостай быў Зеліслаў Янушкевіч. На гэты час прыпадаюць найбольш важкія гаспадарчыя дасягненні. Ім жа напісаныя каштоўныя ўспаміны аб службе ў Браславе (1923-32 гады), а пасля ў Бельску-Падляскім. Мемуары насычаны каштоўнымі звесткамі аб рэгіёнах і людзях. У раздзеле, прысвечаным Браслаўшчыне, акрамя апісання гісторыі, гаспадарчага стану, ёсць частка "Асобы і падзеі", дзе аўтар апісаў найбольш каларытных персанажаў, якія вылучаліся альбо авантурным характарам, альбо неардынарнымі і, нават, супрацьзаконнымі дзеяннямі.*



Zelisław Januszkiewicz "Moje wspomnienia (Brasław 1923-1932 r Bielsk Podlaski 1933-39 r.)"

Мар'ян Радзецкі-Мікуліч быў уладальнікам маёнтка Казачызна ў Дукштаўскай гміне. У сваім маёнтку, не вельмі вялікім, не гаспадарыў. Працаваў у старостве пры Шадурскім (*староста Браслаўскага павета са студзеня 1920 г. па сакавік 1922 г. - Рэд.*) на пасадзе намесніка старосты, а пасля саступлення Шадурскага, некаторы час выконваў абавязкі старосты. Рабіў гэта так няўдала, што ўвогуле быў звольнены з працы. Тады прыступіў да спраў у бяльмонтаўскай адміністрацыі. Быў вядомы як чалавек маленькага розуму і невялікай мудрасці.

Свае жыццёвыя памкненні зясяродзіў на багатай жаніцьбе і падчас працы ў старостве ездзіў і разглядаўся за магчымасцямі ў гэтым накірунку. Старанна заляцаўся за ўдавой Мейштовіча, якая была заможнай асобай. Ня меў аднак поспеха, таму што Мейштовічыха аддала перавагу і выйшла за Шамятка. Пасля смерці графа Фелікса Броэль-Плятэра, Мікуліч заняўся ўдавой Эльжбетай, якой, праўда, было ўжо 51 год, але яна была вельмі заможнай. Апроч таго, Мікуліч быў на 18 гадоў малодшы за яе. Можа, уласна, таму і дайшло да жаніцьбы. Мікуліч са сціплага і нясмелага чалавека зрабіўся вялікім "дзеячам" і набраўся ўпэўненнасці ў сабе. Настойваў завязаць са мной блізкія таварысцкія стасункі, чаго я пазбягаў як мог, бо не быў ён а ні сімпатычны, а ні прыемны. Яго жонка, наадварот, была вельмі разумная і прыгожая, з ёй мае сувязі былі вельмі добрыя.

Мікуліч атрымаў ад жонкі генеральныя прамавоцтвы і пачаў распараджацца ў бяльмонтаўскіх уладаннях па-свойму, прыводзіць у адміністрацыю сваякоў. Бяльмонтаўскія уладанні ўтрымлівалі 18 000 га лесу. Лясная гаспадарка знаходзілася пад строгім наглядам камісара аховы лясоў і вялася правільна.

Аднойчы з'явілася ў мяне Мікулічава і папрасіла парады і дапамогі ў справе, якую яна назірала - моцны крадзеж леса. У той час яе муж адсутнічаў, таму што выехаў да Крыніцы (*месца адпачынку - Рэд.*)на лячэнне. Як мне паведаміла Мікулічава, бяльмонтаўскія лясы масава абкрадаюцца, таму што дрэва "ідзе з лесу як вада". Я патлумачыў ёй, што справа не належыць да маёй кампетэнцыі і параіў звярнуцца ў пракуратуру. Паліцыя па даручэнні пракурора магла бы пачаць расследванне і, магчыма, выявіць вінаватых. Мікулічава так і зрабіла. Пракуратура даручыла правядзенне расследвання каменданту пастарунку паліцыі ў Богіна - Шыманьскаму, чалавеку разумнаму і кемліваму. Са свайго боку, паліцэйскія камісары аховы лясоў праводзілі генеральны кантроль правільнасці вядзення лясной гаспадаркі ў бяльмонтаўскіх лясах. Праца камісара аховы лясоў цягнулася доўга, а камендант пастарунка хутка выявіў, што значная партыя дрэва вышла з леса з мэтай продажу па загадзе Мікуліча!!!

Продаж адбываўся легальна, і з дазволу праўлення бяльмонтаўскіх уладанняў. Гэтым спосабам Мікуліч зарабіў вялікую суму наяўнымі і паклаў ва ўласную кішэню. Канешне, без ведама кіраўніцтва і ўпотай ад жонкі.

Мікуліч вярнуўшыся з Крыніцы, быў апавяшчоны аб гэтай справе камендантам паста. Падчас допыту Мікуліч спачатку не прызнаваўся ў продажы лесу, пазней, аднак, здаўся і прызнаўся, прабачаўся за таямніцу перад жонкай. Хутка з'явілася ў мяне Мікулічава і вельмі каламутна пачала тлумачыць пра непатрэбнае хваляванне улад

вакол гэтай справы, таму што лес прадацы легальна, а муж проста "забыўся" ёй пра тое сказаць. Забрала скаргу назад і прасіла не займацца больш гэтай справай. Я зноў ёй патлумачыў, што справа мяне не датычыцца і параіў звярнуцца з паведамленнем у пракуратуру. Што яна і зрабіла. Праз некаторы час камісар аховы лесу прапанаваў мне вынікі свайго кантроля. Аказалася, што з боку правільнасці вядзення лясной гаспадаркі пярэчанняў не было! Але мелася на самой справе іншае парушэнне. Менавіта кіраўніцтва бяльмонтаўскіх уладанняў не ўнесла ў свае кнігі аб даходах суму каля 200 000 злотых ад продажу лесу. Згодна кнігі ўліку такога продажу не было, а дрэва павінна было знаходзіцца ў лесе. Такім чынам, сума, якую займеў Мікуліч ад продажу леса не была абкладзена падаткам. Выходзіла, што гэта фінансавае парушэнне і трэба было пра яго паведаміць адпаведным установам. Рэкамендавана так і зрабіць.

Праз некалькі дзён пасля гэтага Мікулічава зноў з'явілася ў мяне і пацікавілась інфармацыяй, якая датычылася вынікаў кантроля, якую праводзіў камісар аховы лясоў. Я патлумачыў ёй, што пратаколы кантроля пісаліся ў адміністрацыі ўладанняў і адзін экзэмпляр пакінуты для кіраўніцтва, адпаведна яна магла з ім пазнаёміцца. Прызналася, што пратакола яна не бачыла. Дадала, аднак, што па яе асабістай інфармацыі, лясная гаспадака вялася правільна. Тым часам я паведаміў пра асаблівасці той справы, звярнуў увагу на ўчыненні фінансавых парушэнняў і папярэдзіў аб тым, што можа быць пакаранне за ўкрыццё даходаў з маёнтку.

Мікулічава схапілася за галаву. І просячы аб дапамозе, пытала што ёй рабіць. Я параіў найперш унесці скрытыя даходы ў маёнткавыя кнігі і дамовіцца з фінансавымі ўладамі аб пытанні дадатковых падаткаў. Справа магчымага пакарання залежыць выключна ад рашэння фінансавых улад.

Паківала галавой і сказала мне толькі адно: "Не бачылі Бяльмонты яшчэ такіх спраў".

Мы добра зразумелі адзін аднаго.



**Палац у Бяльмонтах. У розны час ім валодалі Гільзены, Мануццы, Плятэры. Акварэль Н.Орды. 1876 г.**

## *Новыя імёны*

На Браслаўшчыне нарадзілася шмат таленавітых і вядомых людзей, якія мелі яўрэйскае паходжанне. У 2012 г. споўнілася 145 год са дня нараджэння **Іосіфа Блейхмана** - палітычнага дзеяча, удзельніка рэвалюцый і арганізатара выступленняў, які нарадзіўся ў 1867 годзе ў Відзах. У Друі нарадзіўся **Аляксандр Шнэер** - гісторык цырка, тэатразнаўца, ініцыятар стварэння "Тэатральнай Энцыклапедыі", падрыхтаваў энцыклапедыю "Цырк". У Друі з'явіўся на свет **Тав'еў Ісраэль-Хаім** - філолаг, публіцыст, выдавец, аўтар кніг: "Мівхар га-сіфрут" ("Выбраная літаратура". Анталогія, 1899), "Ігрон лівней га-неўрым" ("Пісьмоўнік для юнацтва", 1890), "Оцар га-мешалім ве га-пітгамім" ("Скарбніца пасловіц і прымавак", 1919).

Яшчэ адна дата - 125 год са дня нараджэння **Натана Гарэна** (сапраўднае прозвішча Грынблат) яўрэйскага пісьменніка і журналіста. Ён нарадзіўся ў мястэчку Відзы Навааляксандраўскага павета Ковенскай губерніі ў 1887 годзе. У 1904 годзе далучыўся да сіяніцкай працоўнай партыі Паалей Цыон, затым да сіяністаў - сацыялістаў, быў арыштаваны. У няволі знаходзіўся з 1906 года па 1908. Пасля вызвалення здаў экстэрнам іспыт на званне настаўніка. У 1909 годзе пачаў пісаць апавяданні на рускай мове, але, калі пераехаў у 1910 годзе ў Адэсу, друкаваўся ў перыядычных выданнях на ідышы і іўрыце. У 1921 годзе пераехаў у Коўна, дзе выкладаў у яўрэйскай гімназіі, праводзіў грамадскую і выдавецкую дзейнасць. З'яўляўся членам Яўрэйскай нацыянальнай рады Літвы, рэдактарам выданняў "Хэд Літа", "Дэ ворт" і інш., актыўны дзеяч руху за збор ахвяраванняў для яўрэйскага насельніцтва ў Ізраілі. У 1935 годзе скончыў гістарычны факультэт Каўнаскага ўніверсітэта і выехаў у Ізраіль, дзе працаваў настаўнікам, друкаваўся ў перыядычных выданнях. Апублікаваў дзевяць кніг на іўрыце, у тым ліку "Крытыкі ў нашай літаратуры" (1953). Аўтар кніг "Файфуш" (1911), "Браты Хен" (1939) і інш. У сваіх творах імкнуўся да традыцый маралізуючай літаратуры XIX ст.

*Увазе чытачоў прапануем артыкул Касцюка Закаблука з Браслава, які быў апублікаваны ў газеце "BIELARUSKAJA KRYNICA". Гаворка пойдзе пра тое, як будавалася калонія для ўраднікаў - архітэктурны комплекс, які ў сучаснасці стаў адным са здабыткаў Браслава.*



BIEŁARUSKAJA KRYNICA

PALITYČNAJA, HRAMADZKAJA I LITERATURNAJA HAZETA.

Z NOWYM HODAM. Z NOWYM ŠCASCIEM!

Na Nowy 1927 hod.

NAWAHODNIJA PAŽADAŃNI.

# ЯК БУДАВАЛІ КАЛОНІЮ ДЛЯ ЎРАДНІКАЎ

**МУЖЫЦКІЯ ГРОШЫ ПАНАМ НА РАСКОШЫ**

м. Браслаў. Ні адзін з чытачоў "Беларускай Крыніцы" знае аб тым, што ні ў адным месцы павятовым распачалі будаваць дамы для ўрадоўцаў. У 1924 г. падобныя дамы пачалі расці як грыбы і ў Браславе. Работа закіпела дужа шыбка. Матэрыялы тэхнічныя дастаўляліся з вялікай скорасцю. Што датычыцца рабочых рук, то пра гэта няма рэчы. Рабочыя і сяляне, адчуваючы вялікія недастаткі ў сябе дома наплывалі ад усіх старон. Здавалася браслаўскім жыхарам, што дамы для ўрадоўцаў выбудуюць проста цудоўна. Так-сама-ж кожны ведае, што на пастройку гэных дамоў трэба грошы, грошы і яшчэ раз грошы, каторыя павінны высыпацца з кішэняў нашых бедных мужычкоў. Пастройку дамоў паверана фірме "Passehla" у Новай-Вялейцы, каторая так заракамандавала сябе ў Браславе, што кожны гаворыць:

**"Ад паветра,холаду,**
**агню, вайны і фірмы "Passehla" выбаў нас, Пане."**

Цяпер ёсць ужо збудаваных каля 10 дамоў дзеравянных і мураваных, але будуць будаваць яшчэ. "Нацыянальная" будова дамоў, выявяла мяне з цярпення і хоць няўмею пісаць, бяру пяро ў рукі, грабаю слова па слове.

Адміністрацыя будовы складаецца пераважна з моладзі, каторая большасць часу прабываюць у рэстарацыі і будуюць сабе "службовы за службовым". Работнікам плацяць надта не рэгулярна, па два , па тры злоты, а калі хто адважыцца папрасіць больш сваіх заробленых грошаў, то і па карку пападзе. Былі і такія матар'ялы, якія не гадзіліся нават сабаку на буду ў добрага гаспадара. Бэлькі сырыя, простыя як дуга, цэглы першага гатунку ад заду, вапна папалам з каменямі і г.д. павяралі важныя работы не фацховым работнікам. Пры гэтым не шкодзіць успомніць і такі выпадак, як адзін мурнік быў прыняты на работу, каторы ад пачатку свайго жыцця не дзяржаў цагліны ў руках, а працаваў у працягу пару тыдняў. Як старшы мурнік сказаў яму зрабіць матэрыял для муравання, то ён ня ведаў з якога канца пачаць. Думаў бедны малады мурнік, што апроч гліны, жвіру і вапны трэба Бог знае што. Ці бульбяной кашы, ці можа паўфунта дыму. Ну і што ж у канцы выйшла. Дзякуючы вышэйсказаным парадкам,

**будынкі пачалі раскладацца як труп: фундаманты папсаваліся, патрэскаліся, коміны разваліліся, сцены прынялі позу жабрака просячага куска хлеба,**

а зімой, як насыпе снегу праз дах, дык хоць аўтамабілямі вывазі, а калі не вывязеш, то вадой затопіць. Нядарма Суддзя Пакою ў Браславе п.Курчэўскі хацеў гэтую справу скіраваць да Пракуратара, як паляцелі яму, пачціваму старычку, камень ды пясок на лысіну. Можа і ня быў бы ашукаўшыся, бо арт.: 663 К.К. піша так: "Урадкік, якому даручаны нагляд за выкананнем будаўнічых прац,



**Падчас будаўніцтва калоніі для польскіх ураднікаў. 1920-я гады**

віноўны за дазвол выкарыстання дрэннага матэрыялу, альбо ў недастатковай колькасці, альбо за невыкананне тэхнічных правілаў пры ўзвядзенні будоўлі альбо за кіраўніцтва, у выніку якога наступала разбурэнне будоўлі, альбо яе часткі, будзе караны" і г.д.

Дзе ж гэта будзе стаяць усё крэпка, калі, напрыклад, коміны і фундаманты мураваліся пры 24 градусах марозу. Хоць я не ёсць інжынерам, аднак, здаецца, што пры такім марозе можа мураваць толькі той мурнік, які мураваў неба з зямлёй.

А што ж гаварыць пра дамы, калі нават рыштавання нашыя майстры не могуць зрабіць. Былі выпадкі, як работнікі разам з рыштаваннем злятали на зямлю, ламаючы сабе ногі, шчапаючы галовы і хіляючы рэбры. У канцы канцоў выйшла тое, што дамы яшчэ не кончаныя, а зачынаюць іх будаваць нанава. Адным словам, ня кончылі будаваць, а ўжо пачалі рамантаваць.



**Юзаф Хмялеўскі.Кіраўнік будоўлі з боку павятовай адміністрацыі. 1920-я гады**

Муруюць новыя коміны, сцены сціскаюць у клямры, сем раз па сем нанава тынкуюць, а ўсе нічога не памагае, як крывіліся, так і крывяцца. Адным слова за мужыцкія грошы хочуць паны зрабіць сабе раскошы, але як ня маюць добрай галавы, то нічога ня выходзіць.

Няведама, як ужо глядзіць на гэтую справу, інжынер павятовы ў Браславе п. Язэп Хмялеўскі праз свае бінаклі, мусіць яму іх браслаўскім пяском занясло, бо ён-жа-ж мае надзор за будовай.

З гэтага ясна відацца, што пры такой "разумнай" гаспадарцы, якая сёння ў Польшчы, мужык век не выкапаецца з даўгоў і падаткаў, а кончыць жыцце не жадаючы нікому другому такога, ляжа закапаўшыся ў наказы платнічыя. Як ужо вышэй сказана на Браслаўскія дамы трэба грошы, грошы і яшчэ раз грошы, дый тыя грошы марнуюцца ня так, як трэба. Калі гэта кончыцца?

Касцюк Закаблук

**(друкуецца на мове арыгінала з транскрыпцыяй з лацінкі)**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

## *Беларусы ў свеце*



**Алесь Грыцук.Настаўнік Браслаўскай гімназіі. 1930-я гады**

У часы II Рэчы Паспалітай у Браславе дзейнічала гімназія, адкрыццё якой адбылося 10 верасня 1935 года. Вядома, што з пачатку яе заснавання і да 1938 года тут быў настаўнікам ураджэнец Браслаўшчыны - Юзэф Буйноўскі - польскі паэт, гісторык літаратуры, літаратурны крытык і эсэіст. Але гэта не адно славутае імя, з якім звязана дзейнасць навучальнай установы. У выдавецтве "Медысонт" выйшла кніга Вольгі Грыцук "Мы стваралі сваю Беларусь", у якой яна па ўспамінах апісвае жыццё свайго мужа Алеся Грыцука- ураджэнца Беласточчыны - актыўнага дзеяча, аднаго з лідараў беларускай паваеннай эміграцыі ў Канадзе, літаратуразнаўцу і гісторыка. Яго жонка - Вольга Грыцук - аўтарка кнігі, актыўная дзеячка беларускага руху ў Канадзе, адна з заснавальніц Згуртавання беларускіх жанчын Канады паходзіць з Дзісны з сямейства Дуброўскіх. У сваіх успамінах яна апісвае гады юнацтва і адзін эпізод з жыцця Алеся Грыцука: "...У сярэдзіне 1930-х гг. Алесь быў прызваны ў польскае войска. ...Пасля ён некалькі гадоў працаваў настаўнікам у Браслаўскай гімназіі, дзе выкладаў гісторыю ды завочна вучыўся на гістарычным факультэце ў Варшаўскім універсітэце. Універсітэт ён скончыў у 1938 годзе з тытулам магістра." Таксама ў выданні змешчаны фотаздымкі з каментарыямі. Такім чынам, частка жыцця Вольгі і Алеся Грыцукоў прайшла і была звязана з Паазер'ем, што бясспрэчна напамінае пра "завочны" статус рэгіёна, як калыскі беларускай эміграцыі.

## ВЕРШ ДЛЯ КАНСТАНЦЫІ ПЛЯТЭР

Ах, полно нам служить
Неистовой Беллоне!
В приятной сей глуши
Я позабыл о троне.

Констанция, с тобой
Под сению дерев,
Резвяся и смеясь,
Я мог бы век блуждать,

В глаза твои смотреть,
Уста твои лобзать.
Умолкни, битвы шум!
Пускай любви напев

Один среди лесов
Звучит назло войне.
На лоне тишины,
О, дай забыться мне!

Прильни к моей груди,
Душа моя, поверь,
Я кроток, как дитя,
Не воин я теперь!

*І. Мюрат*

Дарэчы, у кастрычніку 2012 па тэрыторыі рэгіёна прайшоў вялікі ўраган, які нарабіў шмат разбурэнняў. Не вытрымаў моцнага ветра і дубволат, які стаяў каля сядзібы Плятэраў у Опса. Самае старое дрэва на Браслаўшчыне паваліласся. Па паданням, да яго нібыта прывязваў свайго каня Напалеон. Але насамрэч імператар не наведваў гэтыя мясціны. Затое яго маршал - Іяхім Мюрат як раз прыпыняўся тут падчас кампаніі 1812 года. Магчыма, нарадзілася на свет паданне пра славутага Напалеона, калі мясцовыя жыхары пабачылі ваяра ў французскім мундзіры, які адпачываў ля дуба.

## *Да 200-годдзя вайны 1812 г.*

*Тут господствует хрупкий мир.
Хотя вокруг война.
Тишь лесов, их покров
Приглашает к отдыху
обезоруженного воина.
И всё тут дышит счастьем
и нежностью...*



Гэтыя радкі былі напісаны Неапалітанскім каралём, напалеонаўскім маршалам - Іяхімам Мюратам падчас знаходжання ў Бяльмонтах. Падчас ваеннай кампаніі 1812 г. імператарская геаграфія на Браслаўшчыне была вельмі насычанай, як з рускага, так і з пануючага боку.

Першае ўварванне славутага маршала на Браслаўшчыну адбылося 5 ліпеня, калі каля Відз Мюрат атакаваў рускі ар'ергард. Праз чатыры дні ён уступіў у Відзы, дзе мясцовыя жыхары прасілі аб стварэнні часовага адміністрацыйнага ўрада згодна дэкрэту Напалеона. 12 ліпеня маршал адправіўся з Відз на Опсу, а 14 ліпеня адпраўляў чарговае данясенне імператару ўжо з Бяльмонтаў, дзе яшчэ нядаўна размяшчалася галоўная кватэра рускай арміі.

У маляўнічым месцы Мюрат затрымаўся на тры дні. Згодна паданням, маршала затрымалі ў гэтым маёнтку рамантычныя адносіны з гаспадыняй, Канстанцыяй Плятэр. Адсюль ён вёў актыўную перапіску з Напалеонам. Цішыня і ўтульнасць вялікага парка спрыялі лірычнаму настрою. Завязаўшымся адносінам не перашкодзіла нават тое, што маршал быў жанаты на сястры Напалеона. У Бяльмонтах Неапалітанскі кароль напісаў некалькі вершаў, у якіх паказана жаданне міру і спакою, што не вельмі характэрна для бравага кавалерыста. Пазней, ужо ў Неапалі, вершы былі пакладзены на музыку шталмейстэрам двара Карафай.

19 ліпеня 1812 г. Мюрат пакінуў Бяльмонты.

« ПАВЕТ » DISTRICTUS
ВЫДАННЕ КРАЯЗНАЎЦАЎ БРАСЛАЎШЧЫНЫ



Наклад 299 асобнікаў.
Распаўсюджваецца бясплатна.
Выдаецца з ліпеня 2001 г.

Адрас рэдакцыі: г.Браслаў, вул.Энгельса 39, тэл. +375 (02153) 21-4-45
E-mail: bras-muzeum@tut.by

Над нумарам працавалі: Ганна Базарэвіч, Аляксандр Панцялейка, Галляш Сялява